# ПАГОНЯ

Чацвер
17 жніўня 2000 г.
№ 30 (477)
Кошт 70 рублёў

## Яшчэ адзін хабарнік. Цяпер у Воранаве

Працягвае расці колькасць хабарнікаў у вобласці.

Гэтым разам адзначылася мястэчка Воранава.

Начальнік аднаго з аддзяленняў Воранаўскага райваенкамата Чычварын паспрабаваў «адмазаць» жыхара вёскі Кемейшы ад адміністратыўнай адказнасці за парушэнне тэрмінаў пастаноўкі на вайсковы ўлік. У абмен на 120 літраў бензіну для сваёй машыны. Не атрымалася.

Цяпер Чычварын, відаць, не хутка сядзе за руль.

Кася Суніцкая

## Беласток стаў далей

Польскі бок, які прымушаў на працягу некалькіх апошніх месяцаў Беларусь закрыць з 1 жніўня пагранічны пераход «Брузгі - Кузніца Беластоцкая», на самой справе сам аказаўся не гатовы гэта зрабіць да прызначанага тэрміну. Пра гэта сведчаць вялізныя чэргі на пераходзе «Баброўнікі - Бераставіца». Не вытрымлівае ніякай крытыкі брукаваная дарога ад Баброўнікаў да Беластоку, якую ў свой час пабудавалі дзеля таго, каб савецкім танкам было латвей дасягнуць Еўропы. Сёння яна ўяўляе сабою суцэльную паласу перашкодаў...

Пагранічнае ведамства рэспублікі нагадала, што 16 траўня падляская ваявода спадарыня К.Лукашук і галоўны камендант пагранічнай варты Польшчы генерал М.Бянькоўскі заявілі пра неабходнасць тэрмінова закрыць на рэканструкцыю пагранпераход «Брузгі - Кузніца Беластоцкая». На наступных сустрэчах беларускіх і польскіх спецыялістаў польскі бок быў папярэджаны пра тое, што закрыццё пераходу ўлетку спраўкае ўзнікненне вялізных чэргаў і нервовай атмасферы на ўсім беларуска-польскім участку мяжы. Яму таксама было прапанавана пачакаць з прыняццем радыкальнага рашэння і правесці падрыхтоўчыя мерапрыемствы для арганізацыі пропуску асобаў і транспартных сродкаў цераз іншыя пагранпераходы. Прапановы беларускага боку былі адхілены і ён, пасля выканання ўсіх неабходных працэдур, прадугледжаных міжурадавым пагадненнем па пытанню пагранічных пераходаў ад 24 красавіка 1992 года, прыняў рашэнне аб закрыцці пагранпераходу да 15 лістапада, як таго і патрабавала Польшча.

Зараз беларуска-польскую мяжу можна перасячы ў наступных пунктах пропуску: «Бераставіца - Баброўнікі» (для ўсіх відаў транспарту), «Пясчатка - Полаўцы» (для грамадзян Беларусі і Расеі на легкавых аўтамашынах), «Казловічы - Кукурыкі» (для грузавых аўтамабіляў), «Варшаўскі мост - Цярэспаль» (для легкавых аўтамабіляў і аўтобусаў), «Дамачава - Славатычы» (для легкавых аўтамабіляў).

Вячаслаў Будкевіч

## Хлопцы з'елі 40 тон саломы

**Абсалютна не падумалі пра бедных рагатых Мілак, Ласак ды Зорачак калгаса «Авангард» Навагрудскага раёна падлеткі вёскі Несутычы таго ж раёна.**

Інакш не палілі б цыгарэтаў на прасторах свежаскошаных нівах, вяртаючыся ў мінулую нядзелю з начной дыскатэкі.

А так зваліўся недапалак - і 40 тон саломы, як і не было.

З-за дурных галоваў займелі хлопцы сабе клопату, і калгасу да таго ж думай цяпер, як віму «пераляцець».

Пятро Панкратовіч




18, 19 жніўня - пераменная воблачнасць, месцамі - ападкі, вецер няўстойлівы, 3-8 м/с. Тэмпература паветра 18 і 19 жніўня - уначы +10...+15, удзень +22...+27.

## Усё тыя ж, тыя ж, тыя ж...

**Дзяржаўныя СМІ працягваюць актыўную «раскрутку» маючых адбыцца выбараў у так званую палату прадстаўнікоў. На Гарадзеншчыне створана 13 акруговых выбарчых камісіяў, у складзе якіх восем прадстаўнікоў КПБ, трое - іх калегі з ПКБ. Практычна ў кожнай камісіі прадстаўлены маладыя функцыянеры з БПСМ, а таксама ўсюдысныя пенсіянеры. Усяго на выбарчыя ўчасткі павінна прыйсці 865 900 выбарчыкаў.**

У Гродне створаны Гарадзенская-Занёманская N51, Гарадзенская-Цэнтральная N52, Гарадзенская-Паўночная N53 і Гарадзенская сельская N54 выбарчыя акругі.

11 жніўня завершана рэгістрацыя ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў грамадзянаў па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты. Астатнія будуць вылучацца сходам працоўных калектываў. Напрыклад, прэзідэнцкае «вока» на Гарадзеншчыне Марыя Пратасчык мяркуе атрымаць дэпутацкі мандат па Навагрудскай выбарчай акрузе N59. Кіраўнік Ваўкавыскай «вертыкалі» спадар Лукашэвіч - па Ваўкавыскай выбарчай акрузе N50.



Заўтрашні дзень краіны зноў выбяруць пенсіянеры і адстаўнікі?

Паводле неўдакладненых звестак, не супраць яшчэ раз паспрабаваць дэпутацкага хлеба і старшыня Свіслацкага райвыканама Анатоль Кузьма. Збіраюцца балатавацца журналістка Надзея Сакалова, кіраўнік аднаго з гарадзенскіх прадпрыемстваў Андрэй Лосеў, начальнік упраўлення аховы здароўя аблвыканкама Роберт Часнойць...

Ёсць і першыя ахвяры на першым этапе вылучэння. Адзін з лідараў гарадзенскіх прадпрымальнікаў Аляксандр Васільеў не дапушчаны да далейшай барацьбы з-за няправільна складзеных дакументаў.

Урэшце, гэта толькі папярэднія дадзеныя. Дакладныя звесткі журналісты СМІ атрымаюць на прэс-канферэнцыі, прызначанай на чацвер.

Падрабязную справаздачу ПАГОНЯ падасць у наступным нумары.

Сцяпан Ярашчук

## На выбарах нас хочуць абжуліць. Элементарна

**Цяпер паўсюдна павывешвалі плакаты «Усе на выбары!». Гледзячы на іх, адчуваеш зміланванне. Таму што на іх ад пачатку напісана: «Паважаныя выбаршчыкі!» Ёсць ад чаго расчуліцца.**

Бо кім мы толькі за апошнія гады ні былі: «нячэснымі журналістамі», «вашывымі блохамі», некаторыя нават «ворагамі народа на ўтрыманні сусветнага зла». Нам раілі замкнуць раты альбо брахаць у падваротнях. Падзякаваць, што няма вайны і што мы яшчэ жывыя. Жэрці сваю шкварку; а пра ўсё астатняе патурбуюцца нашыя начальнікі, не трэба ім толькі перашкаджаць.

А тут знянацку - «паважаныя выбаршчыкі»... Гэта значыць, і бабулька, якая гандлюе цыгарэтамі, і сябра БНФ, і журналіст ПАГОНІ, і сам Сямён Домаш - паважаныя, выбаршчыкі, грамадзяне краіны. Гэткія самыя, як міністр гандлю, прыдворны пісака альбо «вертыкальны» - Аляксандр Дубко. З чаго гэта раптам нас сталі так паважаць?

14 жніўня А.Лукашэнка накіраваў пасланне генсакратару Еўрасаюза Хаўеру Салане і старшыні АБСЕ Беніта Ферэра-Вальднэр. У ім абяцана забяспечыць справядлівыя і дэмакратычныя выбары ў парламант. Напрыклад, увесці ў склад Цэнтральнай выбарчай камісіі прадстаўнікоў палітычных партыяў. Але толькі тых, хто будзе ўдзельнічаць ў выбарах, і толькі ў ЦВК (а ў мясцовых камісіях няхай, значыць, займаюцца маніпуляцыямі). Альбо, даваць эфірны час на тэлебачанні, зноў жа, толькі кандыдатам у дэпутаты «палаткі» (а астатнія, атрымліваецца, вартыя толькі плаціць падаткі на ўтрыманне тэлезорак і тэлешаманаў). А.Лукашэнка абяцае не пагаршаць ўмовы дзейнасці апазіцыі (магло ж быць яшчэ горай) і дадаць паўнамоцтваў «палаткам» (у будучым...можа быць). Сказана прыгожа, але чаму падчас перамоўнага працэсу з апазіцыяй і гэтак званага «дыялогу» сёлета ўвесну ўлады, як агню, баяліся менавіта таго, што выбары стануць празрыстымі і справядлівымі, а шэф «дыялогу» палкоўнік С.Посахаў заяўляў, што «важна не дапусціць любымі сродкамі» пранікнення апазіцыі ў парламент?

Яны, улады, хочуць, каб усё было прыстойна і шляхетна. Каб іх прымалі ў еўрапейскіх сталіцах; прымалі не за хсўру перафарбаванай бальшавіцкай наменклатуры, а за народных абраннікаў. Хочуць, каб ім паціскаў руку Гавал, Шырак і містар Клінтан. Яшчэ яны хочуць, каб з імі меў справу салідны заходні капітал, каб з імі раіліся ў кран-мантанах, давосах. Каб за імі не палявалі швейцарская пракуратура ды «Інтэрпол», бо цяпер яны вымушаныя мець дачыненні з авантурыстамі і крыміналам. І, нарэшце, яны хочуць, каб іх абралі на выбарах, а не гуртом прызначылі ў «палатку», як узімку 96-га.

Такім дзіўным чынам з «отребья» мы, звычайныя падаткаплацельшчыкі, ператварыліся ў «паважаных выбаршчыкаў».

Сяргей Самасей

(працяг на стар. 2)

## Маладым дарога на Захад

**35 прадстаўнікоў Беларусі, у тым ліку пяцёра з Гродна, прынялі ўдзел у семінары, арганізаваным ва ўкраінскім горадзе Чарнаўцы Міжнародным дэмакратычным інстытутам (IRI, ЗША). Дырэктар праграмаў гэтай установы на Украіне пан Джон Пэпс распавёў, што інстытут прапагандуе каштоўнасці Рэспубліканскай партыі Злучаных Штатаў, дапамагае маладым палітыкам ва Усходняй Еўропе авалодаць выбарчымі тэхналогіямі.**

Як паведаміў ПАГОНІ старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Алесь Пагуляеў, у час дыскусіяў ўсебакова разглядаліся падыходы да правядзення паспяховай выбарчай кампаніі. Уздымаліся пытанні, як гэтую кампанію дыскрэдытаваць. Сутнасць праблемы дапамагалі раскрыць эксперты з Эстоніі, Украіны, ЗША. Яны падзяліліся багатым досведам.

Упершыню з Беларусі была запрошана моладзь з дэмакратычных арганізацыяў, згуртаваных у «Беларускім аб'яднанні маладых палітыкаў», у тым ліку з Маладой Грамады, Маладога Фронту, «Грамадзянскага форуму».

Прадстаўнікі IRI выказалі пажаданне пашырыць сваю дзейнасць і на Беларусь. У прыватнасці, запланаваныя семінары ў Берасцейскай і Гарадзенскай абласцях.

Уладзімір Кавалёў

## Кансерватары Гродна яднаюцца

**9 жніўня ў Гродне адбыўся сход прыхільнікаў еўрапейскай кансерватыўна-хрысціянскай сацыяльна-палітычнай плыні. Сярод удзельнікаў былі і тыя, хто ў свой час перарэгістраваўся ў Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка.**

Прысутныя выслухалі гасцей з Менска - намесніка старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі Беларускага Народнага Фронту Сяргея Папкова і прэс-сакратара гэтага грамадскага аб'яднання Валерыя Буйвала.

У прыватнасці, Сяргей Папкоў адзначыў, што дзейнасць партыі базуецца на глыбокіх традыцыях беларускага народа і на багатых маральных каштоўнасцях еўрапейскага хрысціянства. Кажучы пра паўсядзённую працу, выступоўца адзначыў цвёрдую пазіцыю беларускіх кансерватыўных хрысціянаў у дачыненні да маючых адбыцца выбараў у так званую палату прадстаўнікоў - не ўдзельнічаць. Была раскрыта сутнасць такога рашэння. Крытычна ацаніў менскі госць дзейнасць на Беларусі групы назіральнікаў АБСЕ на чале з панам Хансам-Георгам Вікам. Будучая прэзідэнцкая выбарчая кампанія - вось галоўная мэта дэмакратычных сілаў, лічыць Сяргей Папкоў. Гэта будзе лёсавызначальная для Беларусі падзея.

Што да арганізацыйна-партыйнай работы Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ, то яна сёння мае ў краіне амаль 200 першасных арганізацыяў. Асабліва моцныя пазіцыі ў Менску, Віцебскай, Гомельскай, Берасцейскай абласцях. На Гарадзеншчыне вылучаюцца актыўнасцю партыйныя арганізацыі ў Смаргоні, Зэльве, Шчучыне, Лідзе, Мастах - усяго ў дванаццаці раёнах вобласці.

У час правядзення сходу былі ўтвораны дзве гарадскія суполкі. Выраашана праводзіць сустрэчы кожную сераду а 19-й гадзіне па адрасу: Гродна, вуліца К.Маркса,11 (офіс БНФ «Адраджэньне»).

Сцяпан Ярашчук





**З моманту зьнікненьня нашага калегі Дзьмітрыя Завадскага мінуў:**

# 41 дзень



Мы патрабуем ад уладаў тэрміновага расьследаваньня абставінаў гэтай справы. Мы заклікаем супрацоўнікаў праваахоўных органаў і спэцслужбаў, а таксама людзей добрай волі прыкласьці ўсе намаганьні дзеля ўратаваньня журналіста.

# Падобна на тое, што беларускае грамадства зноў сутыкнулася з праблемай «выбараў без выбараў»

**Дазвольце нагадаць: некалькі пакаленняў савецкіх людзей ніколі і нікога не выбіралі. Яны былі толькі ўдзельнікамі, а дакладней, статыстамі ў маляўнічым масавым гулянні з гучнай назвай «усенародныя выбары». Рытуал гэты планаваўся і пралічваўся да дробязяў у цішыні партыйных кабінетаў. Асноўнай дэталлю былі «народныя абраннікі». Кандыдатуры рупна правейваліся і прасвечваліся разнастайнымі «кампетэнтнымі» службамі. І толькі пасля атрымання канчатковай згоды адпаведнага парторгана, кандыдата выпускалі на працэдуру вылучэння ў нейкі калектыў альбо на сход працоўных.**

Пралетарыі, якія даўно і трывала засвоілі зручную думку, што за іх узмоцнена думаюць і ўсё правільна вырашаюць у адпаведным месцы спецыяльныя людзі, вылучалі абраннікаў дружна і без лішніх пытанняў. Толькі калі-нікалі давалі наказы: вы там, маўляў, не забывайцеся пра нашыя патрэбы. На што і атрымлівалі адпаведныя запэўніванні...

І вось надыходзілі выбары. Усе дружна ішлі на выбарчыя ўчасткі. Выбаршчыкі-спрынтары займалі чаргу на золку. Грымела музыка, адчыняліся запоўненыя дэфіцытам буфеты - піва, любімая электаратам танная вараная каўбаса ды іншыя далікатэсы. Між справаю запаўнялі бюлетэні для галасавання, дзе пазначалася кандыдатура шчаслівага выбранніка. У адзіноце, без розных там альтэрнатываў, без агідных супернікаў. І атрымліваў ён свае гарантаваныя 99,9 працэнта галасоў і пачэсны ранг «слугі народа». А да яго і пэўны спіс разнастайных выгодаў. Вось так і жылі пад засцярогай савецкай «дэмакратыі». Некаму і сёння ёсць пра што ўзгадаць з ціхай маркотай.

Гэта былі, так бы мовіць, успаміны пра тое параўнальна недалёкае мінулае, калі бальшавікі ды іх спадкаемцы, што ўдала выкарысталі асноўны лозунг кастрычніцкага перавароту: «Уся ўлада - Саветам!», прыйшлі да ўлады. Вось і пакінулі гэтыя самыя Саветы дэпутатаў працоўных у якасці рэліквіі. І ператварылі ў зручную шырму для прыкрыцця сапраўдных гаспадароў і ўладароў краіны. Адбылося элементарнае выпустошванне сутнасці, зместу і прызначэння Саветаў як прадстаўнічых (народных) органаў кіравання. Засталася форма. Улада была цалкам узурпаваная партыйнай «вертыкаллю», якая сама сябе прызначала, кантралявала, рэалізоўвала і даволі дбайна самаахоўвала.

Любыя выбарчыя органы пры такой сістэме - не болей чым фікцыя. Любыя выбары ў такія органы - усяго толькі добра адрэжысіраваны фарс.

Чым усё гэта скончылася, мы ведаем. Крах любой ненатуральнай сістэмы прадвызначаны гісторыяй - гэта толькі пытанне часу. Хаця, пры некаторых спрыяльных абставінах, яна можа на нейкі час прадоўжыць існаванне, калі некалькі зменіць свае фармальныя прыкметы. Але пры гэтым яна захавае існасць і змест.

Найноўшая гісторыя станаўлення і развіцця суверэннай беларускай дзяржаўнасці - яскравы таму прыклад.

Не скарыстоўваючы паглыблены гістарычны аналіз прычынаў паразы маладой беларускай дэмакратыі, адзначым толькі той «крок наперад», які яна паспела зрабіць. Гэта Канстытуцыя новай дэмакратычнай прававой дзяржавы - Рэспублікі Беларусь. Пры ўсіх яе праліках і недапрацоўках яна зрабіла галоўнае - увяла прынцып падзелу ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, якія з'яўляюцца самастойнымі ў рамках паўнамоцтваў, узаемадзейнічаюць паміж сабою, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адна адну.

Паводле сэнсу новага Асноўнага закона, перавага аддавалася заканадаўчай уладзе, што цалкам натуральна і вытлумачальна: менавіта заканадаўчая ўлада ў асобе Вярхоўнага Савета краіны з'яўляецца вышэйшым прадстаўнічым органам улады, які фармуецца на аснове ўсенароднага свабоднага волевыяўлення - выбараў. А паколькі Вярхоўны Савет стаў і адзіным заканадаўчым дзяржаўным органам улады, то цалкам зразумелы ягоны прыярытэт у сістэме канстытуцыйна замацаванага прынцыпу вяршэнства закона.

Адзінай крыніцай улады стаў народ, які з гэтага часу мог ажыццяўляць яе непасрэдна і праз свае прадстаўнічыя (выбарчыя) органы.

Справа заставалася за малым: дакладна і даходліва растлумачваць усё гэта народу-гаспадару і агульнымі намаганнямі трох галінаў улады стварыць такія правілы гульні (законы), якія садзейнічалі б «адзінай крыніцы ўлады» зрабіць свой асэнсаваны выбар пры фармаванні органаў улады, якія прадстаўлялі б народ.

Тлумачыць не спяшаліся. З законамі, якія маглі б забяспечыць справядлівыя, адкрытыя і сапраўды дэмакратычныя выбары, таксама марудзілі. Прычынаў гэтаму было шмат. Але асноўная - гэта, бадай, наяўнасць у сістэме кіравання новай дзяржавай прадстаўнічай кампартыйнай «вертыкалі», якая быццам бы рухнула. І ў хуткім часе распачаўся працэс рэанімацыі...

У лістападзе 1996 года гэтая праблема была паспяхова вырашана шляхам увядзення ў дзеянне «новай» Канстытуцыі. Вышэйшы прадстаўнічы (народны) орган улады пакінуў быць вышэйшым. Адменены быў і ягоны асноўны прывілей адзінага заканадаўцы, які з гэтага часу ён вымушаны дзяліць (і далёка не на роўных) з адзіным прадстаўніком выканаўчай улады - прэзідэнтам. Аднак народ (узгадаем нашую нядаўнюю гісторыю) не дэлегаваў яму гэтых вышэйшых паўнамоцтваў.

Маладая беларуская дэмакратыя зрабіла два велізарныя крокі назад, упэўнена вяртаючыся да аўтакратыі, г.зн. да сістэмы **адзінаасобнага кіравання краінай.**

Не закранаючы падрабязнасцяў пытання, можна з упэўненасцю сказаць, што ў выніку канстытуцыйных зменаў і заснаванай на іх «новай» законатворчасці (стрыжнем якой з'яўляецца «дэкрэтатворчасць») грамадства зноў апынулася перад дылемай «выбараў без выбару». І грамадзянін, які вырашыў прыняць удзел у гэтым дзействе, павінен ведаць вось што. У прынцыпе, з тых часінаў, калі на выбарчых участках грымела музыка, булькатала піва, а выбаршчык абыякава запаўняў бюлетэні з нейкімі прозвішчамі невядома адкуль узніклых кандыдатаў у «народныя слугі», нічога не змянілася. Варта часцей аглядацца назад, усведамляць, да чаго прывялі нас звонкія спевы саладкагалосых камуністычных сірэнаў, параўноўваць і задаваць пытанні: ці не заслухоўваемся мы зноў усё тымі ж самымі песнямі?

**Алена Клімовіч**

# На выбарах нас хочуць абжуліць. Элементарна

(Працяг. Пачатак на стар.1)

Чаго дамагаюцца «яны», такім чынам, вядома. А што патрэбна нам? Мы жадаем, каб нам плацілі за працу рэальныя заробкі, а не жабрацкія падачкі. Каб не перашкаджалі зарабляць грошы на базарах і фермах. Каб не лупцавалі ментоўскімі дубінкамі і не фабрыкавалі крымінальныя справы за тое, што мы не жадаем жыць, як быдла. Каб не хавалі ад нас свае прыбыткі ў сакрэтных бюджэтах. Каб не гналі нас у прыгон да расейскіх алігархаў і мілітарыстаў. Каб абаранілі нас ад карупцыі, злачыннасці і фашызму. Каб не бэсцілі нас па тэлебачанні і ва ўрадавых газетах.

Мы шмат чаго яшчэ жадаем. Але ці прыслухаюцца да нашай волі тыя, хто збіраецца зрабіць нам ласку выяўляць нашыя інтарэсы ў «палатках»? Відавочна, што не прыслухаюцца. Інакш яны далі б нам слова на TV, радыё, у дзяржаўных газетах. Уключылі ў выбарчыя камісіі вылучэнцаў апазіцыі. Запрасілі б назіральнікамі прадстаўнікоў грамадскасці. Адмянілі датэрміновае галасаванне.

Калі б існуючая ўлада жадала насамрэч выканаць волю народа, яна б дала дэпутатам ад народа магчымасць кантраляваць дзейнасць сваіх міністраў, правяраць любыя рухі народных грашовых сродкаў. Яна б замяніла «вертыкаль» на мясцовае самакіраванне. Выгнала са службы казнакрадаў і хабарнікаў, не кланавала б палітрукоў і камсоргаў, прыбрала б з экранаў паскудныя рылы майстроў ідэалагічнай вайны супраць нас з вамі. Прымусіла б адмарозкаў у форме выконваць законы. Прынесла прабачэнні за абразы і гвалт. Дала б гарантыі незалежнасці краіны.

Нічога гэтага няма. «Яны» лічаць, што мы паслухмяна прыйдзем і прагаласуем за «адзіны блок «вертыкалі» і беспартыйных». «Яны» маюць намер абжуліць нас без аніякіх выдаткаў. «Яны», як дасведчаны баксёр, разлічваюць выйграць коштам тэхнікі.

Калі мы супрацьпаставім «ім» сваю тэхніку і волю да перамогі, «яны» прайграюць з разгромным лікам. Не трэба думаць, што ў «іх» усё схоплена, што нічога зрабіць немагчыма. Супраць такіх, як яны, даўно вядомыя спосабы барацьбы, якія былі ўдала скарыстаныя ў Польшчы, Літве, Славаччыне, адным словам, паўсюль у былым сацыялістычным лагеры. Больш таго. У душы «яны» жадаюць прайграць, скончыць нарэшце з гэтым дурдомам ды зажыць нармальным жыццём.

**Сяргей Самасей**

# Фармат удзелу - байкот

**«Фармат удзелу апазіцыі ў восеньскай выбарчай кампаніі - актыўны байкот», - заявіў 15 жніўня на прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры БНФ у Мінску старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька. Прычым, як адзначыў лідэр АГП, актыўны байкот не азначае толькі няўдзел у выбарах.**

Усе восеньскія дзеянні апазіцыі, паводле ягоных слоў, будуць скіраваны на тое, каб не даць магчымасці Аляксандру Лукашэнку ўмацаваць свае пазіцыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў і не дазволіць яму перахапіць палітычную ініцыятыву. Галоўным вынікам восеньскай кампаніі, лічыць Анатоль Лябедзька, павінен стаць няўдзел прадстаўнікоў міжнародных структур у назіранні за парламенцкімі выбарамі і, як вынік, непрызнанне іх легітымнымі. «Актыўны байкот», сказаў старшыня АГП, павінен таксама садзейнічаць колькаснаму росту беларускай апазіцыі, і закліканы закласці падмурак агульнарэспубліканскай сістэмы інфармацыі, сістэм распаўсюджвання інфармацыі і назірання за выбарамі, а таксама фарміраванню сістэмы забеспячэння абароны для актывістаў дэмакратычнага лагера. Акрамя таго, паводле слоў Лябедзькі, апазіцыя ў гэты перыяд працягне барацьбу за стварэнне дэмакратычных умоў правядзення любых выбараў, у тым ліку і прэзідэнцкіх.

Для таго, каб гэтыя планы былі паспяхова рэалізаваны, на думку старшыні АГП, апазіцыі неабходна дамагчыся стопрацэнтнай кансалідацыі сваіх сіл і адсутнасці міжнародных назіральнікаў на выбарах.

**Ул.Інф.**

# Статкевіч пайшоў у дэпутаты

**14 жніўня зарэгістравана ініцыятыўная група па збору подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу лідэра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалая Статкевіча. Група зарэгістравана па Каліноўскай акрузе № 107 у Менску. У гутарцы з карэспандэнтам лідэр БСДП (НГ) сказаў, што канчатковае рашэнне аб удзеле ў выбарах ён прыме ў верасні. Аднак з перадвыбарнай гонкі ён можа быць выведзены і раней - ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь хутка будзе разгледжана касацыйная скарга на прыгавор Менскага гарадскога суда ў дачыненні да Статкевіча і Шчукіна.**

Да ўдзелу ў выбарах Мікалая Статкевіча, паводле яго слоў, падштурхнула «ініцыятыва знізу». Да яго паступала мноства зваротаў з просьбай удзельнічаць у выбарах. «У мяне, у Валерыя Шчукіна, у Міхаіла Чыгіра ёсць маральнае права ўдзельнічаць у гэтых выбарах. Я не думаю, што мяне нехта можа папракнуць гэтым - асабліва тыя людзі, хто несанкцыянаваныя акцыі любіць назіраць па тэлевізары», - сказаў старшыня БСДП (НГ). Статкевіч падкрэсліў, што партыя, якую ён узначальвае, не вылучала кандыдатаў. Яна толькі не забараняла асобным членам удзельнічаць у выбарах.

Паводле папярэдніх падлікаў, у кампаніі возьмуць удзел каля 30 членаў БСДП (НГ), у тым ліку намеснікі старшыні партыі Уладзімір Арастовіч і Ніна Стужынская, вядомы праваабаронца Алег Волчак, многія кіраўнікі рэгіянальных арганізацый. З боку членаў партыі, на думку Статкевіча, гэта мужны крок, паколькі выбары пройдуць у відавочна няроўных умовах. Статкевіч адзначыў, што асноўным пярэчаннем супраць удзелу дэмакратычных кандыдатаў у выбарах з'яўлялася небяспека, што гэта прывядзе да легітымізацыі Нацыянальнага сходу. На думку старшыні БСДП (НГ), дэлегацыя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў сваім паведамленні для прэсы вітала вылучэнне незалежных кандыдатаў на парламенцкія выбары і разам з тым заявіла, што не будзе рэкамендаваць Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы прысылаць на іх назіральнікаў, што здымае ўсе апасенні.

Рашэнне ўдзельнічаць у выбарах прынята Статкевічам пасля шматлікіх кансультацый, якія, адзначыў ён, прывялі да ўпэўненасці, што ўдзел некаторых дэмакратычных кандыдатаў не паўплывае на пазіцыю заходніх назіральнікаў у адносінах да выбараў. Аднак само рашэнне членаў БСДП (НГ) прывяло да рознагалосяў і публічнага высвятлення адносінаў паміж партыямі, што ўваходзяць у «аб'яднаную апазіцыю».

«Мы дамовіліся аб стратэгічным узаемадзеянні. Але цяпер на аснове сваіх суб'ектыўных меркаванняў, страхаў і інтарэсаў нам навязваюць тое, што мы не можам прыняць. І пры гэтым заяўляюць, што акругі, у якіх вылучаюцца вядомыя дэмакратычныя палітыкі, падпадуць пад байкот з боку апазіцыйных партый, якія не ўдзельнічаюць у выбарах. Калі правыя пойдуць на байкот дэмакратычных кандыдатаў, я думаю, што Каардынацыйная рада дэмакратычных сіл развaліцца», - заявіў Мікалай Статкевіч.

**Генадзь Барбарыч**

# І толькі бурбалкі пайшлі па вадзе...

**Сёлета падчас летняга адпачынку на вадзе тонуць удвая радзей, чым у мінулым годзе.**

Напрыклад, пакуль што па рэспубліцы зафіксавана 633 тапельцы, з іх 69 дзяцей. А за ўвесь 1999 год - ажно дзве з паловай тысячы.

Паводле дадзеных гарадзенскага аддзялення Беларускага таварыства выратавання на водах, за студзень-ліпень у вадаёмах Гарадзеншчыны патанула 76 чалавек. У жніўні ля Гродна пакуль што адбыўся толькі адзін трагічны выпадак на вадзе. Чацвёра старшакласнікаў паехалі пакатацца на лодцы, тая перакулілася - і двое хлопцаў патанулі ў Нёмане ля турбазы «Нёман».

Нягледзячы на забарону купацца ў адкрытых вадаёмах, народ выкарыстоўвае апошнія летнія дзянькі для адпачынку на ўлонні прыроды. Тым больш, што на бліжэйшы час сіноптыкі абяцаюць добрае надвор'е. Дык дзе ж купацца, каб захаваць бяспеку - сваю і сваіх блізкіх? Расказвае старшыня гарадзенскага аддзялення БТВВ Міхаіл Балкоўскі:

- Самымі небяспечнымі застаюцца хуткаплынныя рэкі - Нёман і Котра. А тонуць часцей за ўсё тыя, хто лічыць сябе добрым плыўцом ды яшчэ прыме 100 грамаў. Нельга пакідаць на беразе дзяцей без нагляду - тыя абавязкова палезуць у ваду. Сёлета нашыя службы выратавалі з вады 168 чалавек, 56 з іх - дзеці. Асабліва небяспечна паказваць свае плывецкія ўменні людзям з хранічнымі захворваннямі. Часта бывае, што ў вадзе здарыцца прыступ стэнакардыі, эпілепсіі, астмы - і ўсё, смерць. Дарэчы, у гэтым годзе ўпершыню рашэннем начальніка абласнога УУС Белашэўскага на пляжах горада дзяжурыць міліцыя, каб менш п'яных у ваду лезла.

Паміж нашымі выратавальнымі станцыямі ды «іхнімі» сонечнымі патрулямі, канешне, агульнага вельмі мала. У іх - шыкоўныя каманды фігурыстых ратаўнікоў і ратавальніцаў кругласутачна патрулююць бераг і не даюць утапіцца навагт пры жаданні. У нас - усяго восем выратавальных станцыяў на ўсю Гарадзенскую вобласць і некалькі ратаўнічых пастоў у райцэнтрах. Штат паста: дзве медсястры, вадалаз, два ратавальнікі. Праўда, у межах 1200 метраў па цячэнню ад станцыі не тонуць. А што далей? Ратаўнікі прызнаюць, што іх задача - не выратаванне, а прафілактыка. Так што, паважаныя плыўцы, у вас застаецца толькі два разумных выйсця: альбо плаваць у басейне, альбо побач з выратавальнай станцыяй.

**Алена Сіневіч**



Апошнія летнія дзянькі...

# Аб'ядалі дзяцей

**Шэраг сур'ёзных парушэнняў у арганізацыі харчавання школьнікаў у дзіцячых аздараўленчых лагерах Гродзенскага, Іўеўскага, Лідскага, Ашмянскага і Шчучынскага раёнаў выяўлены Камітэтам дзяржаўнага кантролю па Гарадзенскай вобласці.**

Асноўныя з іх - парушэнне рэцэптуры прыгатавання ежы, недастатковае ўкладанне прадуктаў пры прыгатаванні страў, выкарыстанне пратэрмінаваных прадуктаў, фармальны кантроль медработнікаў за арганізацыяй харчавання дзяцей і іншыя. Напрыклад, у аздараўленчым лагеры «Касмадром» Шчучынскага раёна за два дні дзецям было недададзена прадуктаў на 15,3 тысячы рублёў, а на складзе лагера «Дружба» Ашмянскага раёна падчас праверкі былі выяўлены лішкі свініны, курыных кумпячкоў, масла, рыбы, какава, грэцкіх круп, пячэння, вафель, кававага напою і сухіх вяршкоў на суму звыш за 78 тысяч рублёў.

Па выніках праверкі 26 чалавек прыцягнуты да адміністрацыйнай і 8 - да дысцыплінарнай адказнасці.

**Ася Куніцкая**

# У новы век - на караване

**На мінулым тыдні прадстаўнікі моладзевай арганізацыі «Next Stop - New Life» шукалі ў Гродне партнёраў для акцыі міжнароднага каравана «Наступны Прыпынак - Новы Век».**

Прадстаўніцы рэспубліканскага моладзевага грамадскага аб'яднання «NSNL» Надзея Дзяйкун ды Іна Драздова паведамілі, што ў арганізацыі каравана ў Гродне ім будуць дапамагаць як няўрадавыя арганізацыі, так і аддзелы па рабоце з моладдзю гарвыканкамаў.

Караван зробіць круг па Беларусі, пачынаючы з Брэста, праедзе праз Гродна, Віцебск, Магілёў, Гомель і завершыцца вялікім гала-канцэртам у Менску. У Гродне праграма акцыі пачнецца восьмага верасня ў кінатэатры «Кастрычнік». Тут адбудзецца «круглы стол» і прэс-канферэнцыя па праблемах моладзі з удзелам дзяржструктураў і няўрадавых грамадскіх арганізацыяў. На сённяшні дзень каардынатарамі прымаючага боку сталі моладзевыя аб'яднанні «Рада-23» і ВІТ. Арганізатары плануюць зрабіць свабодны ўваход на «круглы стол» для ўсіх ахвотных. Увечары таго ж дня будзе вечарынка для моладзі, з жывым гукам і сімвалічнай платай за ўваход.

Караван «Наступны Прыпынак - Новы Век» - сумесны беларуска-шведскі праект. Са шведскага боку удзел возьме арганізацыя «Peace Quest», партнёр «Next Stop - New Life» з дзесяцігадовым стажам. Яны пачалі сумесную працу яшчэ ў 1989 годзе. Тады па краінах Заходняй Еўропы і Савецкаму Саюзу праехаў вялікі культурніцкі караван «Next Stop-Soviet». Музыкі, акторы, мастакі даказалі, што творчасць і шчырыя зносіны могуць зламаць самыя моцныя стэрэатыпы, што дзесяцігоддзямі выпрацоўваліся «саўковай» ідэалогіяй.

Другі культурна-асветніцкі караван будзе складацца з 45 чалавек - эксцэнтрычнай каманды маладых акцёраў, музыкаў, мастакоў, журналістаў, якія праедуць па Беларусі на аўтобусе з 4 па 14 верасня. Арганізатары абяцаюць, што мы не пераблытаем караван ні з чым іншым, бо яго будзе добра відаць і чуваць здалёк.

Мэты каравана «Next Stop - New Life» як сур'ёзныя, так і несур'ёзныя. Сярод першых - прыцягнуць увагу дзяржавы і грамадскасці да стану і праблемаў моладзі і моладзевых НДА. А да другіх можна залічыць несур'ёзныя адкрыцці цікавых людзей вакол сябе і вакон у новы свет, адчуванне смаку да жыцця і пашырэнне жыццёвай прасторы праз новыя кантакты і сяброўства.

**Ганна Макоўская**

# Міліцыя - за здаровы лад жыцця

**У суботу ў Пышках Гарадзенскі гарнізон міліцыі правёў спартыўна-забаўляльнае свята.**

Свята работнікаў нашай міліцыі адкрыў намеснік начальніка УУС Віктар Жарабіла, які пажадаў удзельнікам спартовага шчасця. Трохгадзінная праграма мерапрыемства складалася як са спартыўных спаборніцтваў, так і з дэманстрацыі сямейных хобі. У спартовы блок ўвайшлі барацьба сумо, біятлон, перацягванне каната, армрэслінг, сямейная эстафета. У перапынках прысутныя маглі паласавацца кавалачкам печыва з конкурсу «Лепшы торт» ці паўзірацца на партрэты хатніх гадаванцаў, паказаныя на фотаконкурсе «Браты нашы меншыя».

Свята распачалося ў 11 гадзін раніцы і скончылася ля дзвюх гадзін дня. За галоўную мэту падобных мерапрыемстваў міліцыянты ставяць спартовыя перамогі і здаровы адпачынак. Можа, таму ў суботу ў Пышках не было продажу спіртных напояў. Працаваў толькі адзін латок з бутэрбродамі.

А пераможцамі міліцэйскага свята спорту і адпачынку сталі аб'яднанне «Ахова», каманда Ленінскага РАУС і асобны батальён ДАІ.

**Алеся Макавецкая**

# Ажаніцца - не журыцца?

**Напрыканцы лета кожны ўікэнд з раніцы да вечара гудуць вясельныя картэжы. Настаў сезон вяселляў. Падчас вяселля шчаслівыя маладыя бясконцай чарадой (а то і па 2-3 вяселлі запар) гудуць на Савецкай плошчы, фатаграфуюцца ля непрацуючага фантана ля Драмтэатра. Жаніхі адважна валакуць сваіх нарачоных на руках праз Стары мост. У ліпені - жніўні (самыя вясельныя месяцы) у трох гарадзенскіх ЗАГСах штотыдзень рэгіструецца каля сотні шчаслівых параў.**

Вяселле - гэта добра. Некаторыя мае знаёмыя ўмудраюцца жаніцца і выходзіць замуж па 2-3 разы, і кожны раз з вялікім імпэтам. Падобна на тое, што прынцып лебядзінай вернасці ў шлюбе - «кахаць адзін аднаго ўсё жыццё і памерці ў адзін дзень» - адыходзіць у нябыт. Як было ў часы маладосці нашых бацькоў? Да вяселля - ніні, а калі ўжо здарылася, то трэба пакрываць грэх - тэрмінова жаніць каханкаў. Пры гэтым клопат па матэрыяльнае забеспячэнне маладзёнаў часта бралі на сябе бацькі - кааператыў там пабудаваць, сальца падкінуць, малых дагледзець, пакуль маладая сям'я заканчвае вучобу. Сярэдні ўзрост абрання шлюбу на той час быў прыкладна 20 гадоў.

## Дык штампаваць пашпарт ці не?

Сёння ж мы назіраем змены як у стаўленні грамадства да сямейнага жыцця, так і ў прынцыпах яго пабудовы. Знізіўся сярэдні ўзрост уступлення ў першы шлюб - 20-30 гадоў. У наяўнасці той факт, што цяпер маладыя людзі жэняцца, калі ў галаве ўжо нешта ёсць, ды і нейкія перспектывы на самастойнае ўладкаванне ў жыцці. Паводле вынікаў сацыялагічных апытанняў, больш за 60 працэнтаў маладых людзей да 25 гадоў не разлічваюць на дапамогу бацькоў напачатку свайго сямейнага жыцця.

Разам з тым, матэрыяльныя праблемы выходзяць на першае месца сярод прычынаў разводаў, якіх становіцца ўсё больш. Колькасць шлюбаў і разводаў у Гарадзенскай вобласці за студзень-чэрвень 2000 года вельмі і вельмі здзіўляюць. Мяркуйце самі: узялі шлюб за гэты перыяд 2 724 чалавекі, развяліся - 2 335 чалавек. Прыкладна аднолькава. У мінулым годзе вяселляў было трохі больш, а разводаў - меней (2 900 і 2 100 за шэсць месяцаў адпаведна).

Цяпер сярод моладзі ўсё больш распаўсюджваецца меркаванне, што штамп у пашпарце - рэч зусім не абавязковая, без якой можна выдатна абыйсціся. І абыходзяцца. Прыкладна тры працэнты параў на Гарадзеншчыне жывуць у грамадзянскім шлюбе. І гэта толькі афіцыйна. Сёння рэаліі такія, што гэты самы штамп ніводнага з сужонцаў да нейкай адказнасці прыцягнуць не ў стане. Аднак, калі, скажам, муж пэўны час не забяспечвае сям'ю фінансава - жонка мае законнае права юрыдычна патрабаваць аліменты, нават знаходзячыся ў шлюбе. А калі не - тым больш. Іншая справа, калі бацька свядома ўхіляецца ад уплаты аліментаў. Тады яго і закон не прымусіць. Можа, таму цяпер жанчыны, у тым ліку маладыя жанчыны, не баяцца адны выхоўваць дзяцей. Адпаведна дадзеным абласнога статупраўлення, у вобласці кожная дзесятая жанчына - адзінокая маці (у рэспубліцы гэтая лічба дайшла да 13 працэнтаў). Значна вырасла доля дзяцей у незамужніх жанчын: у 1990 годзе яна складала 7,5 працэнта, а на дадзены момант - 1,8 працэнта, што нямала. Да гэтага трэба дадаць, што ў горадзе Гродна пятая частка жанчын і чвэрць мужчынаў ва ўзросце ад 16 гадоў і старэй ніколі не былі ў шлюбе.

Аднак, на наш погляд, гэта не сведчыць пра спад каштоўнасці інстытута сям'і ў беларускім грамадстве. Паняцце «сям'я» пераходзіць з разраду дысцыплінарна-эканамічнага ў добраахвотную, сумленфную форму суіснавання дваіх асобаў. І прадаўжэнне роду пакінула быць самамэтай. Цяпер галоўнае - жыві сам, не перашкаджай жыць партнёру і не перастарайся з дзецьмі.

## Усе на барацьбу з выміраннем?

У застойныя, але сытыя васьмідзесятыя гады ў Беларусі ўмацавалася еўрапейская мадэль сям'і: двое бацькоў - двое дзяцей. Цяпер жа нарадзіць другое дзіця - невырашальная праблема, бо сярэднестатыстычная беларуская сям'я не ў стане пракарміць і апрануць яго. І тэндэнцыя змяншэння нараджальнасці спыняцца не збіраецца. За шэсць месяцаў гэтага года ў вобласці нарадзілася амаль на 200 немаўлятаў менш, чым за гэты ж час ў 1999 годзе - 5428 і 5602 адпаведна. Пры такіх тэмпах праз пяцьдзесят гадоў насельніцтва Беларусі скароціцца ўдвая. Ужо сёння на кожнага працаздольнага прыпадае 0,8 (выбачайце за матэматычны гумар) непрацаздольнага чалавека.

Незразумела адно: як гэта кітайцы пры іх рэгулюючых нараджальнасць законах і яшчэ нядаўніх недаяданні і беднасці - на першым месцы ў свеце па нараджальнасці? Цалкам магчыма, што так званы «кітайскі эканамічны цуд» стаўся магчымым пасля таго, як бацькі падлічылі ўсіх сваіх дамачадцаў і прыйшлі да высновы, што надышоў час зарабляць на дзяцей. І зарабляюць жа!

Дык можа, урэшце рэшт, і нам трэба браць прыклад з кітайцаў і размнажацца? Абы толькі грошай хапала і Чарнобыль не псаваў генафонд...

**Алена Сіневіч**

# Не дайце «Нёману» засохнуць!

**Якой павінна быць будучыня нацыянальнага спорту? На якіх прынцыпах яго належыць развіваць? Што патрэбна і што можна зрабіць, каб не даць загінуць хакейнаму клубу «Нёман», становішча якога з кожным днём становіцца ўсё горшым? Добрыя гульцы ідуць туды, дзе больш плоцяць. Тое ж самае з трэнерамі. Не хапае грошай на экіпіроўку гульцоў і паездкі на гульнёвыя сустрэчы...**

Пра ўсё гэта мы гутарылі з мэнеджэрам Хакейнага клуба «Нёман» (г.Гродна) Уладзімірам Жабінскім. Адбывалася гэта на лавачцы галоўнага гарадзенскага стадыёна. Рабочыя газонакасілкамі падстрыгалі на футбольным полі траву. Па сцяжынках бегалі хлопчыкі, недзе 12-ці гадоў. З імі быў трэнер - малады хлопец, невысокі і каржакаваты.

На самой справе, такія як Уладзімір - рэдкая знаходка для Хакейнага клуба. Асабліва зараз, калі апошні знаходзіцца ў адчайным становішчы. Дзіўна, што гэтага не заўважаюць (а можа, не жадаюць заўважаць ягоныя кіраўнікі). Зрэшты, па меры атрымання інфармацыі пра ўнутранае жыццё клуба своеасаблівая логіка мясцовых чыноўнікаў ад спорту становіцца зразумелай.




Калі «Нёман» не ўмацаваць рублём - пройгрыш гарантаваны

### Уладзімір Жабінскі:

...Хакейны клуб «Нёман» - гэта грамадская арганізацыя. Пры гэтым яна фінансуецца цалкам з бюджэту. Статус грамадскай дапамагае ёй змяншаць падаткі на фонд заробнай платы. А сума гэтая ў клуба вялікая. Ну а што значыць атрымліваць грошы з бюджэту - не мне вам тлумачыць. Бюджэт то сеяць дапамагае, то перасяваць, а нашыя справы ідуць усё горай. Хакей - адзін з самых дарагіх відаў спорту. Адна экіпіроўка чаго каштуе. Форма палявога гульца каштуе ад 500 да 1000 даляраў, а галкіпера - ад 2500 да 3000. Канькі - пад сотню, клюшка - 15-25 даляраў, а яе на пару трэніровак хапае. Паездкі на спаборніцтвы, гатэлі, харчаванне...

...У пачатку 90-х у каманду ўдалося сабраць нямала добрых гульцоў з Расеі. Тады ў іх справы ішлі, а ў нас - яшчэ нічога. Гульцам і трэнерам кватэры давалі, заробак быў прыстойны. І «Нёман» стаў падымацца. Цяпер усё наадварот. Хутка адкрыццё сезону, а мы яшчэ не ведаем, хто з гульцоў прыедзе ў каманду. Зарплату затрымліваюць на тры месяцы. А што яны атрымліваюць? Вядучыя гульцы - недзе па 200 даляраў. А яны ж так выкладаюцца, здароўе губляюць на лёдзе. У мінулым годзе наш брамнік Косця Аляксееў напрыканцы чэмпіяната Беларусі атрымаў прэмію ў 30 даляраў. Але ж менавіта ён быў прызнаны лепшым гульцом УЕХЛ. Ад такой абразы ён папросту кінуў усё і з'ехаў.

...У нас вялікая праблема з хакейнай зменай. Ёсць ДзЮСШ N10, якая рыхтуе хакеістаў, і ёсць Хакейны клуб. Дзве гэтыя арганізацыі жывуць кожная сваім жыццём. Нідзе ў свеце такога няма. Кожны клуб лічыць за свой абавязак рыхтаваць сабе змену. Клуб павінен клапаціцца пра яе. А як у нас - амаль усё трымаецца на бацьках: набыццё формы, канькоў, аплата паездак. Спартыўны камітэт аплочвае толькі рэспубліканскія спаборніцтвы. Але ж ёсць яшчэ УЕХЛ. У Кіеў, Рыгу - усё за кошт бацькоў. Так, ёсць забяспечаныя сем'і, якія могуць і апрануць, і куды заўгодна адправіць свайго сына. Але гэта не факт, што дзеці з такіх сем'яў - таленавітыя спарцмены. Часта бывае, што хлопец перспектыўны, бацькі яшчэ да 12-14 гадоў яго цягнулі, а потым - папросту грошай не хапае. Апроч таго, далей яны не бачаць перспектывы для свайго сына. Вось у Германіі мноства клубаў, камандаў. Там ёсць адбор ужо з дзяцінства. У хлопцаў - стымул. А потым, калі яны трапляюць у добры клуб, то адразу прыстойныя грошы атрымліваюць, нармальна сябе адчуваюць.

...Не ведаю, чаму, але ўсе нашыя кіраўнікі - былыя вайскоўцы. Дырэктар Лядовага палаца, прэзідэнт футбольнага клуба, дырэктар спартыўнай школы. Яны не спарцмены. Ім цяжка зразумець нас. Прэзідэнт клуба Рыгор Сямёнавіч Бейзак таксама далёкі ад спорту. У яго ёсць нейкі свой бізнес. І яму няма калі займацца намі. Колькі разоў я ні заходзіў у ягоны кабінет, ні разу не чуў, каб ён быў заклапочаны праблемамі клуба, спарцменаў. На ўсе мае прапановы, ідэі ён кажа: «Зараз няма калі, давай пазней...».

Пакуль мы з Валодзем гутарылі, на полі скончылася трэніроўка. Да нас падышоў той самы каржакаваты Дзмітрый Краўчанка. Ён прыехаў у Гродна з Расеі ў 1993 годзе. Гуляў за «Нёман», быў добрым гульцом. Але тры гады таму атрымаў сур'ёзную траўму і зараз можа толькі трэніраваць. Валодзя кажа, што такіх трэнераў, як Дзіма, яшчэ пашукаць. «Ёсць вельмі добрыя хлопцы, перспектыўныя, - ківае Дзіма на будынак, за дзвярыма якога зніклі ягоныя выхаванцы, - шкада будзе, калі яны разбягуцца». Яго самога ўжо запрашаюць назад у Новакузнецк. Сітуацыя ў Расеі заўважна паляпшаецца.

### Рыгор Бейзак - Прэзідэнт Хакейнага Клуба «Нёман»

**(фрагменты размовы з ім нашага карэспандэнта)**

...Усё залежыць ад фінансавання. Да нас грошы ідуць з абласнога бюджэту. Вось на першыя тры месяцы года нам іх выдаткоўвалі, на тры гарадзенскія спартовыя клубы - хакейны, валейбольны і баскетбольны - 65 мільёнаў рублёў. А зараз - усё. Як будзем жыць - невядома. Дзякуй Аляксандру Іосіфавічу Дубко (старшыня Гарадзенскага аблвыканкама, - рэд.), ён нас падтрымлівае. Удасца ў яго што-небудзь для клуба выпрасіць, - значыць, яшчэ нейкі час здолеем існаваць. Наогул, жывем на падачках.

...Ці ёсць нейкія спробы выжыць? Гэта павінны вырашаць у рэспубліканскім кіраўніцтве. У нас у Менску была нарада па праблемах фінансавання клубаў Рэспублікі Беларусь. Паводле ягоных матэрыялаў, падрыхтавана дакладная запіска Цяцерыну. Я лічу, што праблему можна вырашыць, калі прадпрыемствам, гатовым укладваць свае сродкі ў развіццё спорту, даць канкрэтныя ільготы па падаткаабкладанні.

...Ці можа клуб сам зарабляць? Калі браць на рэалізацыю чыюсьці прадукцыю, то спатрэбяцца вялікія партыі і перадаплата вялізнымі сумамі грошай. Адкуль у нас такія сродкі? Ды і са збытам зараз складана нават у той жа Расеі. У нас ёсць ПКФ «Хакей-Нёман-сэрвіс». Яе заснаваў клуб. Але ў нас няма прыстойнага стартавага капіталу, каб гэтая фірма магла нешта рабіць. А зараз увогуле стаіць пытанне наконт яе перарэгістрацыі. Неабходны статутны фонд у памеры 2000 даляраў. Адкуль ў клуба такія грошы? Ды і артыкула расходу такога няма.

### Уладзімір Жабінскі:

...Я ведаю, што некаторыя беларускія клубы, якія неяк круцяцца, зарабляюць грошы. Іх няшмат, чатыры-пяць. Напрыклад, «Славія», нядаўна нават трэнера з Югаславіі запрасілі. Відаць, не на 200 даляраў. Упэўнены, у спартыўных клубаў ёсць магчымасці самафінансавання. Што ў нас атрымліваецца: грошы з бюджэту атрымалі, праелі, праездзілі, а справаздачы наконт вынікаў няма. У мяне і зараз ёсць ідэі, і раней былі. Калі ў 1998 годзе «Нёман» упершыню стаў чэмпіёнам рэспублікі, я падумаў: трэба зрабіць нешта такое, каб і горад гэта адчуў, і камандзе было здарава. Пайшоў на Гарадзенскі піўзавод і прапанаваў выпусціць піва з нашай маркай. Там падтрымалі гэтую ідэю, тым больш, што ў іх акурат быў новы гатунак. Ад яго рэалізацыі нам маглі б адлічваць 1-3 працэнты прыбытку. Але я вырашыў, што аднаму мне гэтую ідэю не рэалізаваць. І тут знайшоўся адзін надзвычай прадпрымальны чалавек, які ўзяўся дапамагчы. Ён, праўда, перад кіраўніцтвам Клуба выступіў як аўтар маёй ідэі, яго прызначылі дырэктарам ПКФ «Хакей-Нёман-сэрвіс». Мне гэта было крыўдна, ну ды Бог з ім, - галоўнае, каб справа была зробленая. Але тыя, хто скраў маю ідэю, яе і загубілі. Запрасілі ад піўзавода 15-20 працэнтаў, на што ён, канешне, пайсці не мог.

...Мы зусім не выкарыстоўваем магчымасці ад прадажу сваёй клубнай маркі. Так, гэта на першы погляд, не густа. Але калі з кожнай дамовы браць пакрысе (хай сабе па 3-5 працэнтаў), развіваць гэтую справу, заключаць дамовы з рознымі прадпрыемствамі, падключыць рэкламу, то можна дамагчыся неблагіх вынікаў. У мяне быў паспяховы досвед размяшчэння замовы ў атэлье «Вясёлка» на выраб шапачак з колерамі клуба і яго эмблемай. Дарэчы, гэтыя ж шапачкі мы, калі выйгралі турнір у Германіі, падаравалі немцам. Тыя былі надзвычай задаволенымі. Акрамя шапачак, можна на той жа «Вясёлцы» шыць гетры хакеістам. Яны абыходзяцца па 2,5 даляра, тады, як імпартныя - па 10-15. Я выконваў гэтую працу два месяцы, фірма «Хакей-Нёман-сервіс» заплаціла мне за яе 5 даляраў. Як яны там працуюць - я не разумею. Гэты чалавек, які скарыстаўся маёй ідэяй з півам, але так і не давёў яе да розуму, потым узначаліў фірму. Спачатку столькі ўсяго нааб'яцаў: паездкі на Украіну, у Польшчу, у Германію... Але нічога ў іх не атрымалася.

Валодзя яшчэ доўга распавядаў пра тое, як меркаваў замаўляць рукзакі на пальчаткавай фабрыцы, шыць формы на «Дынама», баулы, якія ў Беларусі можна вырабіць за 15 даляраў, замест таго, каб набываць імпартныя па 60. «Калі б мы наладзілі выпуск усяго гэтага, маглі б зарабляць хай і невялікія працэнты, але для клуба гэта не было б лішнім», - упэўнены Уладзімір. Але якімі б усе гэтыя праекты ні былі ўдалымі, гэта не кардынальнае вырашэнне праблемы. Клуб залежыць ад бюджэту, а сумную гісторыю з нашым дзяржбюджэтам ведаюць усе. Па меры збяднення апошняга, будзе пагаршацца становішча клуба. Наўрад ці варта таксама разлічваць на абяцанні губернатара дапамагчы хакею. Трэба меркаваць, спадар Дубко мае на ўвазе той самы бюджэт. Тым не менш, сітуацыя небезнадзейная. Выхад можа быць у арганізацыі акцыянернага таварыства. Дзейнасць клуба павінны кантраляваць тыя, хто ўклаў у яго свае грошы. Гэтая сістэма дзейнічае ўсюды ў свеце і дзейнічае бездакорна. Так, у нас, асабліва зараз, усё значна складаней. Ці знойдуцца ахвотныя інвеставаць спорт? Але каманда «Нёман» - не «цёмная лошадка». А калі будуць грошы - пойдзе ў гору і прафесіяналізм. Не спазніцца б з гэтым, а то разбягуцца па суседніх краінах усе «перспектыўныя пацаны».

**Ніна Палуцкая**

# У новым газавым пасьянсе Беларусі адведзена сціплая роля

**Большасць беларускіх сродкаў масавай інфармацыі не надалі асаблівага значэння навіне, якая прыйшла з Польшчы - 23 ліпеня міністр эканомікі Янаш Штайнхоф заявіў, што ягоная краіна не дасць дазволу расейскай кампаніі «Газпрам» пракласці новы газапровад у Заходнюю Еўропу праз Беларусь і Польшчу ў абход Украіны.**

Гэтая заява была зроблена польскім міністрам па выніках сустрэчы з дэлегацыяй украінскага ўрада. Адпаведна словам Штайнхофа, Польшчы было б выгадна будаўніцтва такога газаправоду, аднак ёй важна захаваць добрыя адносіны з Украінай. Яна не можа дапусціць «сур'ёзнай эканамічнай страты» дружалюбнай краіне. Некаторыя расейскія СМІ адразу ж паведамілі, што кіраўніцтва Расеі разглядае альтэрнатыўныя варыянты транспарціроўкі газу ў абход Украіны, у прыватнасці, праз Фінляндыю.

Кіраўнік «Газпрама» Рэм Вяхіраў яшчэ ў мінулым годзе паведаміў журналістам, што кампанія фарсіруе будаўніцтва новага газаправоду ў Еўропу ў абход Украіны праз тэрыторыю Беларусі. Паводле ягоных словаў, такія дзеянні «Газпрама» былі «адзіным адэкватным адказам на несанкцыянаваны адбор газу на тэрыторыі Украіны». Вяхіраў тады заявіў расейскаму агенцтву «Інтэрфакс», што «Газпрам» плануе пабудаваць на тэрыторыі Беларусі тры ніткі газаправодаў, і ў гэтым выпадку «Украіна па газу будзе ліквідаваная».

Адпаведна словам Вяхірава, несанкцыянаваны адбор газу на тэрыторыі Украіны перасягае 100 мільёнаў кубаметраў штодня. Аднак «Газпрам» не можа ажыццявіць адключэнне паставак газу на Украіну, бо «24 дзяржавы Еўропы вісяць на гэтай сістэме», як сказаў Рэм Вяхіраў. А расейска-ўкраінскія перамовы па аплаце за пастаўкі газу кіраўнік «Газпрама» назваў «размовай глухога з нямым».

Паводле дазеных «Інтэрфакса», новы газапровад дазволіў бы ўдвая павялічыць транзіт расейскага газу ў Еўропу.

Сапраўды, альтэрнатыўны шлях транспарціроўкі газу ў Заходнюю Еўропу дазволіў бы Расеі атрымаць магутнейшы рычаг уздзеяння на Украіну. Не дзіўна, што Украіна паспрабавала перашкодзіць гэтаму палітычнымі сродкамі.

Расейская газета «Известия» ў нумары ад 25 ліпеня пракаментавала заяву польскага міністра са скептыцызмам. «Міністр эканомікі Польшчы зрабіў смелую заяву, - піша газета. - Настолькі смелую, што міністра можа стрымаць прэзідэнт краіны Аляксандр Квасьнеўскі, як толькі ўзважыць усе наступствы такой адвагі».

Адпаведна меркаванню аглядальніка «Известий» Сямёна Навапрудскага, украінскім уладам не варта спакушацца на заяву польскага міністра, паколькі ў пастаўках расейскага газу на Захад зацікаўлена Германія ў асобе стратэгічнага партнёра «Газпрама» - канцэрна «Рургаз». «Польшча палітычна і эканамічна залежыць ад характару адносінаў з Германіяй. І ёсць падставы меркаваць, што ў гэтай сітуацыі Германія апынецца не на баку Польшчы з Украінай», - піша Сямён Навапрудскі.

Хаця гэтае сцвярджэнне расейскага журналіста абсалютна абгрунтаванае, «Известия» не ўзгадваюць пра інтарэсы ў рэгіёне другога стратэгічнага партнёра Польшчы - Злучаных Штатаў. Малаверагодна, каб прадстаўнік польскага ўрада зрабіў сваю заяву экспромтам, без папярэдняга ўзгаднення, а мажліва, і пераканання з боку ЗША. Для Злучаных Штатаў дапусціць магчымасць адключэння расейскага газу на Украіну фактычна азначала б страту ўплыву на аднаго са сваіх важнейшых партнёраў ва Усходняй Еўропе.

Што да Беларусі, то ёй у гэтым газавым пасьянсе адведзена самая сціплая роля. Беларускае кіраўніцтва, канешне ж, зацікаўленае ў даходах, якія сталі б паступаць за транзіт у выпадку завяршэння альтэрнатыўнага газаправоду, але яно не мае рычагоў уплыву на прыняцце рашэнняў па гэтаму пытанню.

Ужо даўно вядуцца размовы пра тое, што «Газпрам» быў бы зацікаўлены ў акцыянаванні беларускага дзяржаўнага прадпрыемства «Белтрансгаз» і атрыманні саліднага пакету акцыяў у абмен на спісанне пазыкаў Беларусі па пастаўках газу. Калі альтэрнатыўны газапровад праз Беларусь і Польшчу ўсё ж будзе завершаны, інтарэс «Газпрама» да такога акцыянавання яшчэ болей узрасце.

Аднак праблемы Беларусі, звязаныя з залежнасцю ад імпарту расейскага газу, альтэрнатыўны газапровад не вырашыць. Газавая труба не можа замяніць эканамічную рэструктурызацыю.

**Аляксей Знаткевіч**

# РЭКЛАМА Тэлефон: (0152) 72-29-96, 72-37-14




### ПРАДАЮ

✓«Масквіч-2140», 1979 г.в., на запчасткі, на хаду. Тэл. 44-45-41.

✓BMW, 1982 г.в. (патрэбны рамонт) ці на запчасткі. Тэл. 2-02-98.

✓«Масквіч-2140» на запчасткі, танна. Тэл. 99-56-12 (запрасіць Аркадзя).

✓Запчасткі да аўтамабіля «Таёта Карола», 1985 года выпуску; 1,3 Б (трохдзверная, купэ). Тэл. (8-213) 2-24-79 (пасля 18.00, запрасіць Алега).

✓Дом з зямельным надзелам (6 км ад Гродна). Танна. Тэл. 33-38-69 (з 18.00), 72-20-62 (з 9.00 да 17.00).

✓Прыватызаваны ўчастак у Зарыцы пад будаўніцтва, 18 сотак. Тэл. 33-79-95.

✓Драўляны дом у Гомелі (агульная плошча - 100,1 кв.м). Ёсць прыродны газ, каналізацыя, водаправод, усе камунальныя выгоды, тэлефон, гаспадарчыя пабудовы, два гаражы, лазня. Тэл. (8-222) 3-16-39 (пасля 19.00).

✓Узмацняльнік «Вега-50-122С», калонкі, імпартную аўтамагнітолу, радыёстанцыю «Onva». Тэл. 73-00-00 (аб. 95352).

✓Картрыджы для 16-бітнай прыстаўкі «Sega» (па кошту 2,5 тыс. рублёў): Gemfire («Каштоўны агонь», прыгодніцкая ваенна-стратэгічная гульня); Mutant League Football (Мутанцкая футбольная ліга», амерыканскі футбол жахлівых мутантаў); Rock-N-Roll Rasing (аўтамабільныя гонкі іншапланецянаў); Ghost Busters («Паляўнічыя за прывідамі», прыгодніцкая гульня); 4-гульнёўку - Bare Knucle («Вуліцы гневу», баявая сюжэтная гульня, вулічныя бойкі), Caesar's Palace (азартныя гульні ў казіно: рулетка, косці, лато, 21 ачко, «аднарукі бандыт», відэапокер, скачкі, латарэя), Sonic-1 (прыгодніцкая гульня), Alien-3 (прыгодніцкі касмічны баявік па матывах к/ф «Чужыя»). Да ўсіх гульняў прыкладаюцца іх апісанні, коды, паролі, сакрэты, парады, гульнёвыя прыёмы. Тэл. 75-44-70.

✓TV «Электрон», вельмі танна; капот да аўтамабіля «Форд Сіера», танна. Тэл. 2-65-60.

✓Узмацняльнік «Брыг-001» (кошт - 35 у.а.), фотаапарат «Фэд-3» (кошт -10 у.а.), святлামузыку «Спектр-301» (кошт - 15 у.а). Усё б/у, у добрым стане. Звяртацца: вуліца Томіна, д.20, кв.405.

✓Паліраваныя трохдзверны шыфаньер і пісьмовы стол, б/у. Танна. Тэл. 2-77-54.

✓Ложак, два крэслы, кухню, пральную і швачную машыны. Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

✓Тэлевізар (вытворч. Германіі; 62 см), дыстанцыйнае кіраванне, б/у; відэамагнітафон (вытворч. Германіі), б/у; навясную кухонную шафку з гадзіннікам. Тэл. у Лідзе 4-42-91.

✓Халадзільнік «Снайге-15Е» (б/у), а таксама шыны і лабавое шкло ад «Масквіча-2140». Тэл. 44-39-70.

✓Рогі лася (11 разгалінаванняў), чахол для гітары, два паўтарачных (1,5) ложкі, б/у; магнітафоны «Сатурн-201» і «Вега-328-стэрэа», б/у. Тэл. 33-79-95.

✓Халадзільнік (кошт - 25 у.а.), плэер (кошт - 5 у.а.), новыя скураныя туфлі (памер 43, кошт - 10 у.а.), пярэдні бампер BMW-3 (кошт - 5 у.а.), пластанатомію для мастакоў - 45 у.а., лыжныя чаравікі «Adidas» (кошт - 30 у.а.). Тэл. 5-66-58.

✓Фаеркі, пераключальнікі да электраплітаў. Тэл. 72-32-92.

✓Газавую пліту, б/у. Тэл. 47-18-21.

### КУПЛЮ

✓Факсімільнае выданьне Статуту ВКЛ 1588 году, граматыку Б.Тарашкевіча, кнігу «Летапісы і хронікі» зь серыі «Беларускі кнігазбор». Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

✓Фоташтатыў. Тэл. 33-59-87.

✓Старыя манеты, узнагароды, абразы, любы антыкварыят, купюры. Тэл. у Менску 263-40-74.

✓Эспандэр для развіцця мышцаў плеч і грудной клеткі. Тэл. 76-58-05 (з 10.00 да 20.00, запрасіць Сяргея).

### МЯНЯЮ

✓Двюхпакаёвую кватэру (3-ці паверх) на дзве аднапакаёвыя кватэры старой планіроўкі. Тэл. 75-26-20.

✓Аднапакаёвую кватэру ў Віцебску (2-і паверх, тэлефон на Маркаўшчыне) на аднапакаёвую ў Паставах ці Мядзелі. Тэл. у Паставах 2-34-59.

### ПАСЛУГІ

✓Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

✓Рэпетытарства па ангельскай мове. Тэл. 6-12-71.

✓Сканіраванне фотаздымкаў (камп'ютарная апрацоўка) тэксту, распазнаванне, набор і раздрукоўка (на лазерным, струйным ды іншых прынтарах) на IBM PC (рус., анг.). Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

✓Рэпетытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

✓Усё па ангельскай, лацінскай, беларускай мовах. Тэл. 33-21-83.

✓Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

✓Набор тэкстаў, табліцаў на камп'ютары. Раздрукоўка на струйным альбо матрычным прынтары. Танна. Не абавязкова на Вашай паперы. Тэл. 93-53-56.

✓Набор тэкстаў на камп'ютары, сканіраванне, раздрукоўка на матрычным прынтары. Тэл. 76-55-16.

✓Ангельская мова: пераклады і кантрольныя работы. Хутка і якасна. Тэл. 31-15-83.

✓Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц. МЗ РБ N224 да 30.XII.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

**Доктар С.Каляда**
Інтэнсіўная псіхатэрапія алкагалізму, залішняй вагі. Найноўшыя методыкі. Тэл. 74-35-46 (да 18.00). Ліц. N796 па 23 сакавіка 2004 г., МЗ РБ.

✓Відэаздымка. Якасна выканаем работы па стварэнню відэафільма пра Ваш лёс, юбілей, прэзентацыі. Ліц. N613, выдадзеная МК да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Тэл. у Ваўкавыску 2-34-86.

✓Камп'ютарны набор, сканіраванне, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

### ЗДЫМУ

✓Адна- ці дзвюхпакаёвую кватэру з мэбляй і тэлефонам, кошт - да 50 у.а. Пажадана ў мікрараёне Вішнявец, па пр-це Я.Купалы, вул.Паповіча альбо ў цэнтры. Тэл. 72-10-86.

✓Адна- ці дзвюхпакаёвую кватэру, кошт - да 40 у.а. Тэл. (8-214) 36-1-05.

### РОЗНАЕ

✓Шкаляры, гімназісты, ліцэісты Гарадзеншчыны! Калі хочаце мець у вашай навучальнай установе сваю газэтку, пішыце на адрас: 230009, Гародня, а/с 30, ЛІЦЭЙ плюс ці yunela @mail.ru

✓Шукаю працу на прадпрыемстве па абіўцы мяккай мэблі. Тэл. 44-39-15.

✓Здаю пакой з мэбляй (40 год Перамогі). Тэл. 6-66-96.

✓Згублены пашпарт на імя Паўла Іванавіча Бутока просьба вярнуць за ўзнагароду. Тэл. 33-91-68.

Да ведама бацькоў вучняў беларускамоўных класаў! Па ўсіх пытаннях, якія не вырашаюцца (падручнікі, дапаможнікі на беларускай мове ды іншае) просім звяртацца ў Таварыства беларускай мовы на адрас: 220005, г.Менск, вул.Румянцава, 13.

✓Шукаю працу на прадпрыемстве па нарэзцы пратэктару шынаў легкавых, грузавых машынаў усіх марак. Тэл. 44-39-15.

✓Аддам кацянятаў у добрыя рукі. Тэл. 6-07-61.

✓Аддам прыгожых шчанюкоў у добрыя рукі. Тэл. 75-19-89.

✓Шукаю аднадумцаў для ўтварэння Клуба аматараў ангельскай мовы. Тэл. 44-45-41.

✓Кнігу С.Астраўца «Цэнзарскія нажніцы» можна замовіць на выставе беларускай аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі. Акрамя гэтага, на выставе з'явіліся новыя нумары часопіса «Arche»: «Arche-Скарына», «Габрэйскі нумар». Чакаем вас кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 па адрасе: г.Гродна, вуліца К.Маркса,11, 2-і паверх.

✓Шукаю працу на прадпрыемстве па падшыўцы і падклейванні падэшваў у абутку. Тэл. 31-77-41 (у любы зручны для вас час).

✓Прапішу двух чалавек. Тэл. 6-83-19 (увечары).

### ЗНАЁМСТВЫ

✓Хлопец (25/176/69) жадае пазнаёміцца з прывабнай дзяўчынай да 27 гадоў. Тэлефон паскорыць сустрэчу. Пісаць: 230023, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта КН N0581245.

✓Надзвычай энергічны, далікатны, імпазантны мужчына бальзакаўскага ўзросту жадае пазнаёміцца з прыемнай ва ўсіх адносінах жанчынай да 40 гадоў. Хатні адрас: 230026, г.Гродна-26, вуліца Томіна, 16-706б (Віктар Дзмітрыевіч); пажадана захапіць з сабою пашпарт.

✓Таццяна, 19/173, студэнтка ГрДзУ, з задавальненнем пазнаёміцца з сур'ёзным і прыстойным маладым чалавекам, не пазбаўленым пачуцця гумару, для сур'ёзных адносінаў. Пісаць: 230003, г.Гродна, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта КН N0229658.

### ВІНШАВАННІ

✓Віншуем *Валерыя Мацкевіча* з Днём народзінаў! Зычым яму здароўя, шчасцейка і зьдзяйсненьня ўсіх мараў. Валера! Будзем!

**Сябры з арганізацыі і твая Аленка**

*Валерый Леванеўскі!* Гарадзенскае абласное грамадскае аб'яднанне па абароне правоў спажыўца віншуе Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця і ўдачы ва ўсіх справах!

✓Даражэнькі мой, родненькі, ненаглядненькі *Валерачка!* Віншую цябе, мой адзіны, з чарговым, семнаццатым днём народзінаў! Зычу табе, мой Сонечны, шчасьцейка на ўсё жыцьцё, жыцьцязьдольнасьці і ўпэўненасьці ў заўтрашнім дні. Кахаю цябе!

**Твая маленькая Вар'ятка**

## Польская грамадская школа

**пры Саюзе Палякаў у г.Гродна**
**аб'яўляе набор вучняў у 7-11 класы**

Заняткі праходзяць у групах па 15-20 чалавек у класах СШ N36 у г.Гродна ў вячэрні час па будзённых днях і нядзелях.

Праграма навучання прадугледжвае заняткі па наступных прадметах:
- граматыка польскай мовы;
- польская літаратура;
- гісторыя;
- матэматыка (факультатыў);
- біялогія (факультатыў);
- хімія (факультатыў);
- элементы культуры і польскага фальклору (факультатыў).

У школе працуюць настаўнікі, якія скончылі польскія ВНУ і настаўнікі з Польшчы, што гарантуе высокі ўзровень навучання. Кожны год для вучняў школы арганізуюцца экскурсіі да адпачынак у летніках, размешчаных у маляўнічых куточках Рэспублікі Польшча.

**Заявы прымаюцца ў аддзеле адукацыі Саюза Палякаў па адрасу: вул.Дзяржынскага, 32, ці па тэлефоне 72-00-62, а пасля 15 верасня - у СШ N36 у г.Гродна - вул.Курчатава, 43, бібліятэка Польскай грамадскай школы (3-ці паверх), з 9.00 да 15.00 (тэл.78-42-11).**

## Рэдакцыя газеты ПАГОНЯ абвяшчае КОНКУРС на замяшчэнне пасады кіраўніка аддзела рэкламы і маркетынгу.

**Абавязковыя ўмовы:**
**амбітнасць,**
**камунікабельнасць,**
**досвед працы.**

Давведкі па тэлефонах: 72-29-96, 72-37-14.

**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

30 Імя і прозвішча ____________

Адрас (тэлефон) ____________

Рубрыка ____________

Тэкст ____________

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11

**Газета ПАГОНЯ Запрашае на працу** *пенсіянераў, студэнтаў, школьнікаў і часова непрацуючых - для распаўсюджвання нашай газеты!*
*Тэл. 72-37-14, 72-29-96*

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». Авальная зала. Выстава - «Медны посуд XVIII - пачатак XX стагоддзяў». Сенатарская зала. Дзейнічае экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Працягвае дзеянне выстава, арганізаваная Беларускім дзяржаўным музеем гісторыі рэлігіі, - «Вобраз маці Божай у іканапісу».

**Галерэя «У Майстра» (вул. Кірава, 14).** Сумесная выстава мастакоў Гарадзеншчыны. Вялікі выбар мастацкіх матэрыялаў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Дзейнічае выстава вышыванак Аляўціны Кавалеўскай пад назвай «Паэзія ў нітках».

**Музей Гісторыі Гарадніцы (вул. Ажэшкі, 37).** Выстава батьку вучняў восьмага класа сярэдняй школы N31.

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вул. Ажэшкі, 39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Дзейнічае выстава, прысвечаная Францішку Багушэвічу. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Маладзевыя дыскатэкі**

**Кінатэатр імя Пушкіна** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю).

**Кінатэатр «Усход»** - з 22.00 да 24.00 (у пятніцу), з 22.00 да 01.00 (у суботу), з 22.00 да 24.00 (у нядзелю). Штодня працуе пракат відэакасетаў, більярд, камп'ютарныя гульні.

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00 (акрамя панядзелка і аўторка). Працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Калізей-2000.** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпцізшоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

